Пройдзены шлях: набыткі і страты

# Грэка-каталіцкая (уніяцкая) царква

***Гісторыя Грэка-каталіцкай (уніяцкай) царквы — частка нашай агульнай гісторыі, яе нельга разглядаць адасоблена. Толькі тады падзеі XVI ст. — узнікненне Уніяцкай царквы на беларускіх землях — набываюць унутраную логіку.***



*Былая уніяцкая царква св. Мікалая (пач. XIX ст.) у в. Самуйлавічы Дольныя Мастоўскага р-ну Гродзенскай вобл. Фота А.Яроменкі*

Хрысціянства на землі сучаснай Беларусі прыйшло з Візантыі, менавіта таму Царква ад самага пачатку была традыцыйна звязана з Канстанцінопальскім патрыярхатам. Ужо ў X ст. была створана Полацкая епархія. Яна ахоплівала землі Полацкага княства — першай дзяржавы на беларускіх землях. Нашы продкі прынялі хрысціянскую веру ў той час, калі існавала яшчэ адзіная, непадзеленая Царква. Але нават пасля фармальнага падзелу ў 1054 годзе на ўсходнюю і заходнюю, Царква на нашых землях яшчэ доўга падтрымлівала сувязь і з Канстанцінопальскай царквой-Маці, і з Апостальскай сталіцай — Рымам. Яскравым сведчаннем гэтага з'яўляецца існаванне ў нашым царкоўным календары свята Перанясення мошчаў св. Мікалая Цудатворца (9 траўня/22 траўня). Свята гэтае прыйшло да нас з Заходняй царквы і было ўстаноўлена пасля таго, як мошчы святога, культ якога шырока распаўсюдзіўся сярод славянаў, перанеслі з Мір Лікійскіх (Блізкі Усход) у італьянскі горад Бары. У грэкаў, якія на той час не мелі ўжо ніякіх сувязяў з Рымскай царквой, гэтага свята няма. Епархіі, якія існавалі на беларускіх землях і ўваходзілі ў склад Кіеўскай мітраполіі, былі падпарадкаваны Канстанцінопальскаму патрыярху.

Да XVI ст. гісторыя ведала ўжо некалькі спробаў заключэння уніі. Найбольш вядомая з іх была падпісана на Фларэнтыйскім саборы ў 1439 годзе. У сярэдзіне XV ст. Візантыя апынулася перад пагрозай заваявання яе туркамі. Адзінай магчымасцю ўратаваць у такой сітуацыі Царкву быў саюз з Рымам. Спраўдзіць гэтую Унію не атрымалася па розных прычынах. Трэба адзначыць, што сярод тых, хто падпісаў Фларэнтыйскую унію, быў і маскоўскі мітрапаліт Ісідар. Пасля вяртання ў Маскву ён быў закрыты маскоўскім царом Васілём II у манастыр і пазбаўлены мітрапаліцкага пасаду. Руская праваслаўная царква прагнула самастойнасці і выкарыстоўвала паслабленне Візантыі для атрымання аўтакефаліі, таму ніякі саюз з Рымам не мог быць станоўча ўспрыняты ў Маскве. У XVI ст. узнік Маскоўскі патрыярхат, які адразу ж пачаў прэтэндаваць на ролю духоўнага цэнтра ўсходніх славян. Гэтыя працэсы адбываліся на тле палітычнай экспансіі Маскоўскага княства, якое прэтэндавала на ролю палітычнага цэнтра. Карыстаючыся падтрымкай цароў, Маскоўскі патрыярхат пачаў пашыраць свае ўплывы сярод праваслаўнага насельніцтва Вялікага Княства Літоўскага. У першую чаргу гэта знаходзіла падтрымку сярод ніжэйшага духавенства і мяшчанства. Сярод іерархаў, аднак, існавала моцнае прагненне захаваць сувязь з заходнім хрысціянскім светам. Напрыканцы XVI ст. праваслаўе заставалася калькасна пануючай канфесіяй у Вялікім Княстве Літоўскім. На тэрыторыі Рэчы Паспалітай было дзевяць праваслаўных епархіяў, з іх чатыры — на землях сучаснай Беларусі. Узначальваў Праваслаўную царкву мітрапаліт Кіеўскі, сядзіба якога, між тым, знаходзілася ў Вільні, сталіцы ВКЛ. З пачаткам перманентных войнаў паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Маскоўскім княствам узнікла неабходнасць кансалідацыі нацыі, таму пачалі рабіцца канкрэтныя крокі да заключэння рэальнай уніі з Рымам.

Менавіта на гэтым гістарычным тле ў 1596 г. і была падпісана Берасцейская (Брэсцкая) царкоўная унія. Падзея гэтая з'яўляецца адной з пераломных у беларускай гісторыі, другой пасля Хрышчэння па масавасці ахопу насельніцтва і трэцяй па значнасці пасля пашырэння каталіцтва. Уніяцкая царква была сведчаннем царкоўнай еднасці з Апостальскай сталіцай і носьбітам візантыйскай традыцыі на беларускіх землях. Даволі часта адначасова з гэтым яна з'яўлялася адзіным сховішчам і апякункай беларускай культуры, мовы і нацыянальнай тоеснасці. На працягу XVII–XVIII стст. большасць хрысціянаў, якія жылі на тэрыторыі сучаснай Беларусі, належалі да Уніяцкай (грэка-каталіцкай) царквы. У другой палове XVIII ст. 85% вясковага насельніцтва былі уніятамі.

Сярод праваслаўных іерархаў асаблівай адданасцю Уніі адзначаўся біскуп Уладзімірскі і Берасцейскі Іпаці Пацей (1541–1613). Прызначаны біскупам у 1590 годзе, ён уключыўся ў барацьбу за Унію і адразу быў прызнаны яе бясспрэчным лідэрам. У тым жа 1590 годзе разам са сваім аднадумцам і паплечнікам Кірылам Цярлецкім, біскупам Луцкім, Іпаці Пацей схіліў Кіеўскага мітрапаліта Міхаіла Рагозу склікаць у Берасці сабор, дзе ўпершыню змог выкласці ідэю Уніі на такім высокім узроўні. Разам з распаўсюджваннем ідэі Уніі, пачалі пісацца і распаўсюджвацца таксама антыўніяцкія творы. Да 1594 года падрыхтоўчая праца была скончаная: былі распрацаваны ўмовы падпісання Уніі, атрымана згода папы Рымскага і караля Рэчы Паспалітай. 2 снежня 1594 года на ўсеагульным саборы ў Берасці мітрапаліт Міхаіл Рагоза ўрачыста абвясціў заключэнне Уніі паміж Праваслаўнай і Каталіцкай Цэрквамі. Па даручэнні сабору Іпаці Пацей і Кірыла Цярлецкі выправіліся ў Рым, каб афіцыйна паведаміць аб стварэнні Уніяцкай царквы і прынесці прысягі вернасці. 21 студзеня 1596 года папа Клімент VIII у прысутнасці ўсёй кардынальскай калегіі адправіў імшу ў гонар гасцей, Пацей і Цярлецкі паведамілі пра злучэнне цэркваў, прачыталі Сімвал Веры і прынеслі прысягу. На памяць пра гэтую падзею ў Ватыкане быў выпушчаны адмысловы медаль.

8 (18) кастрычніка 1596 года ў Берасці ў царкве св. Мікалая адбыўся сабор, на якім была прынята грамата пра ўступленне праваслаўных іерархаў у Унію, з якой і бярэ пачатак Уніяцкая царква. На саборы прысутнічалі: мітрапаліт Кіеўскі Міхаіл Рагоза, архібіскуп Полацкі, Віцебскі і Мсціслаўскі Рыгор Герман, біскупы — Луцкі і Астрожскі Кірыла Цярлецкі, Холмскі і Бельзскі Дыянісі Збіруйскі, Пінскі і Тураўскі Ёна Гогаль, архімандрыты — Брацлаўскі Багдан Гадкінскі-Клімонт, Лаўрышаўскі Гедэон Бралніцкі, Менскі Паісей ды шматлікае праваслаўнае духавенства. З каталіцкага боку —

паслы папы Клімента архібіскуп Львоўскі Ян Дзмітры Салікоўскі, біскупы — Луцкі Бярнард Мацяеўскі і Холмскі Станіслаў Гамаліцкі. Прысутнічалі таксама высокапастаўленыя свецкія асобы: канцлер ВКЛ Леў Сапега, гетман ВКЛ князь Нясвіжскі, ваявода Троцкі Мікалай Крыштаф Радзівіл, падскарбі ВКЛ староста Берасцейскі Дзмітры Халецкі і іншыя. Паралельна ў Берасці адбыўся іншы сабор — праціўнікаў Уніі, на якім прысутнічалі два праваслаўныя іерархі, якія раней падтрымлівалі Унію: біскуп Львоўскі Гедэон Балабан і біскуп Перамышленскі Міхаіл Капысценскі.

Паводле ўмоваў Уніі, цалкам захоўваўся ўсходні (візантыйскі) абрад з усімі яго літургічнымі, багаслоўскімі і дысцыплінарнымі асаблівасцямі. Так, напрыклад, Сімвал Веры пакідаўся нязменены, г. зн. гаворыцца пра паходжанне Святога Духа толькі ад Айца, хоць у Лацінскай царкве ўжо даўно было дададзена так званае Filioque — ад Сына. Захоўвалася свая царкоўная іерархія, незалежная ад іерархіі лацінскай. Ніжэйшае духавенства, як і раней, магло жаніцца. Уніяцкая царква прымала новы, грыгарыянскі каляндар, але Пасхалія заставалася ўсходняя. На Уніяцкую царкву і яе іерархаў распаўсюджваліся ўсе правы і годнасці, якія мелі ў Рэчы Паспалітай рымакатолікі.

Пачатак існавання Уніяцкай царквы быў даволі складаны. Частка праваслаўнага насельніцтва не прыняла рашэння Берасцейскага сабора і ўтварыла моцную апазіцыю пашырэнню Уніі. Апорай праваслаўя ў гэты час сталі праваслаўныя брацтвы, сярод якіх асабліва адзначаліся брацтвы ў Вільні, Львове, Магілёве. Наступцам Міхаіла Рагозы на мітрапалічым пасадзе стаў Іпаці Пацей (1599–1613), а пасля ягонай смерці Язэп Веньямін Руцкі (1613–1637), які стварыў унутраную арганізацыю Уніяцкай царквы. Паміж іншым, ён заснаваў Закон Святога Базыля Вялікага (базыльяне) — адзіны уніяцкі манашаскі ордэн. З часам базыльянскія манастыры сталі сапраўднымі цэнтрамі адукацыі і асветніцтва. Пры іх існавалі школы і калегіі, у якіх навучанне вялося па-беларуску, шматлікія друкарні. Перад першым падзелам Рэчы Паспалітай (1772) у краіне было каля 150 базыльянскіх манастыроў.

У 1620 годзе, вяртаючыся з Масквы ў Канстанцінопаль, патрыярх Тэафан у Кіеве высвяціў некалькі праваслаўных святароў у біскупы на тыя епархіі, якія былі заняты уніятамі. Такім чынам утваралася паралельная праваслаўная іерархія, што было не проста расколам, але абвяшчэннем адкрытага супрацьстаяння. Яго кульмінацыяй стала забойства 12 лістапада 1623 года архібіскупа Полацкага Язафата Кунцэвіча. Праваслаўным архібіскупам Полацкім быў на той час Мялеці Сматрыцкі — таленавіты багаслоў і царкоўны пісьменнік, адзін з галоўных праціўнікаў Уніі. У супрацьстаянне паміж імі былі ўцягнуты вялікія масы насельніцтва ў паўночна-ўсходняй частцы Княства (Магілёў, Орша, Віцебск), дзе наймацнейшымі былі ўплывы Масквы і мелася самая разгалінаваная сістэма брацтваў. Язафат Кунцэвіч, карыстаючыся дадзеным яму каралём правам, вельмі жорстка абыходзіўся з праціўнікамі Уніі. У мястэчках, дзе святары адмаўляліся яму падпарадкавацца і падбухторвалі супраць яго жыхароў, архібіскуп зачыняў і апячатваў цэрквы. Калі ў лістападзе 1623 года ён прыехаў у Віцебск, супраць яго ўспыхнуў бунт, раз'юшаны натоўп забіў Язафата Кунцэвіча і ўкінуў яго цела ў Дзвіну. За забойства архібіскупа Віцебск заплаціў высокую цану — забойцы былі пакараны смерцю, а сам горад пазбаўлены магдэбургскага права. Праз год пачаўся беатыфікацыйны працэс па далучэнню Язафата Кунцэвіча да ліку святых. Забойства архібіскупа Полацкага стала пераломным момантам у гісторыі Уніяцкай царквы. Сімвалічным у гэтым сэнсе быў пазнейшы пераход ва уніяцтва Мялеція Сматрыцкага.

Вайна паміж Масквой і Рэччу Паспалітай у 1654–1667 гадах паскорыла пераход беларускага насельніцтва ва Уніяцкую царкву. Сутыкнуўшыся з бязлітасным і жорсткім маскоўскім войскам, для якога ўсе падданыя Рэчы Паспалітай, незалежна ад канфесіі, былі ворагамі, беларусы масава пакідалі праваслаўе і пераходзілі ва уніяцтва. Да канца XVII ст. насельніцтва Беларусі амаль цалкам перайшло ў Унію. У самой жа Рэчы Паспалітай Уніяцкая царква знаходзілася не ў найлепшым становішчы.

Напрыканцы XVII ст. пачалася імклівая паланізацыя краіны, беларуская мова была выкінута з прававога і дзяржаўнага ўжытку. Шляхта масава пераходзіла ў рыма-каталіцтва. Беларуская мова сталася мовай сялянаў і Уніяцкай царквы. У новых умовах Уніяцкая царква апынулася паза палітычным жыццём дзяржавы, абслугоўваючы духоўныя патрэбы простага народу. Новы імпульс Уніяцкай царкве даў пачатак XVIII ст., калі да Уніі далучылася значная частка Украіны — Перамышль (1682), Львоў (1700), Луцк (1702). У 1720 г. у Замосці адбыўся сабор, які значна рэфармаваў і актывізаваў жыццё Царквы. Праўда, коштам гэтага былі значныя саступкі ў бок лацінізацыі Уніяцкай царквы.

Наступ на Унію пачаўся адразу ж, як толькі Беларусь была далучана да Расіі. У 1772 годзе адбыўся першы падзел Рэчы Паспалітай. Беларускія землі на ўсход ад Дняпра і на поўнач ад Дзвіны з хрысціянскім насельніцтвам у 1 мільён 200 тысячаў чалавек, з якіх 800 тысячаў былі уніятамі, 300 тысячаў праваслаўных і 100 тысячаў каталікоў, апынуліся пад Расіяй. Пасля наступных падзелаў (1793 і 1795) амаль усё беларускае насельніцтва апынулася ў складзе Расійскай імперыі. Расійская дзяржава праводзіла мэтанакіраваную палітыку па скарачэнню колькасці уніятаў. У 1832 годзе цар Мікалай І скасаваў ордэн Базыльянаў, зачыняючы уніяцкія манастырскія школы і забараняючы ўвогуле друкаваць і распаўсюджваць уніяцкія кнігі. Заключным актам знішчэння Уніяцкай царквы стаў сабор на чале з мітрапалітам Язэпам Сямашкам, скліканы ў Полацку 12 лютага 1839 года, які абвясціў пра пераход уніятаў у праваслаўе. 25 сакавіка 1839 года Мікалай І падпісаў указ аб «прыняцці» уніятаў у лона праваслаўя. Такім чынам, 2,5 тысячы уніяцкіх святароў і 1,5 мільёна вернікаў сталі афіцыйна праваслаўнымі. Супраціў уніятаў такому гвалту набыў масавы характар. Некалькі соцень непакорных святароў былі зняволеныя ці сасланыя ў Сібір. Супраціў працягваўся фактычна да ўказу Мікалая ІІ пра верацярпімасць 1905 года, калі 230 тысячаў нашчадкаў уніятаў перайшлі ў лацінскі абрад, паколькі Уніяцкая царква ў Расіі і надалей была забароненая.

Яшчэ да Полацкага сабора адбывалася татальнае знішчэнне ўсяго уніяцкага. Старыя беларускія кнігі збіраліся па ўсіх парафіях і паліліся. Мітрапаліт Язэп Сямашка піша ў сваіх «Запісках», што за тры гады было сабрана і спалена па яго загаду больш за 2000 беларускіх стадрукаў. Замест беларускіх кніг у Расіі друкаваліся новыя, на царкоўна-славянскай або рускай мовах. Было забаронена прамаўляць казані па-беларуску, а епіскапы пачалі вымагаць ад духавенства, каб нават у прыватным жыцці карысталіся толькі рускай мовай. Шмат вернікаў не вытрымлівала такога ціску і пераходзіла ў Рыма- каталіцкую царкву. У другой палове 1830-ых гг. пачалася передача уніяцкіх храмаў праваслаўнай царкве, а пасля Полацкага сабора 1839 года уніяцкая Царква была гвалтоўна ліквідавана. У 1874–1875 гг. былі знішчаны рэшткі Уніі на тэрыторыі Падляшша, якое першапачаткова апынулася ў складзе Прусіі. Уніяцкая царква засталася толькі ў Аўстрыйскай імперыі — у Закарпацці і Галіцыі, дзе яна праіснавала да 1946 года, калі была ліквідавана Сталіным.

Пра патрэбу аднаўлення Уніяцкай царквы пісаў Кастусь Каліноўскі і адраджэнцы пачатку XX ст. Такія дзеячы нацыянальнага адраджэння, як браты Іван і Антон Луцкевічы, Францішак Багушэвіч, Карусь Каганец, Цётка, а таксама некаторыя каталіцкія святары пачалі актыўна дзейнічаць з мэтай адраджэння Уніі; іх падтрымліваў Львоўскі мітрапаліт Андрэй Шаптыцкі. У міжва-

(Заканчэнне на стар. 8.)



*Штогадовая пілігрымка грэка-католікаў з Віцебска ў Полацк, ліпень 2004 г.*

## Summary

For those who are new readers of our Bulletin in a new year, we would like shortly to remind of reasons why the Civil Initiative For Free Denomination was formed, its targets and intentions (page 1).

Under the title "Official Correspondence" one can read the answers from the Committee on religions and nationalities attached to the Council of Ministers and the Ministry on education of the Republic of Belarus, received by bishops-leaders of the four associations of the Protestant Church . There are provisions in some text-books which have been evaluated by the bishops as non objective and discriminating ones. Functionaries don't see any reasons for anxiety. ("There is absolutely no information...", page 3).

Opinion of a Bill of Declaration discussed by the Inter-religious Interethnic Federation for peace in the world (IIFWP), and its complete text is published on page 2.

We are finishing the publication of short review of the VI Annual report by the USA State Department *On International Religious Freedoms*, pages 4–5.

The history of appearance and formation of the Belarusian Greek-Catholic (Uniate) church, beginning from 1596, when the Brest Church Union was signed, till its dominating influence upon minds and feelings of ordinary people at the end of the 18th century, a thorny path and loss of all positions after the Belarusian lands were joined to the Russian empire, and complete prohibition of the Uniate Church, attempts to restore the past in the 20th century and the present situation… Written by Ales' Trafimenko, pages 6–8.


**Пройдзены шлях: набыткі і страты**

# Грэка-каталіцкая (уніяцкая) царква



*Народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін падчас аўдыенцыі ў Папы Рымскага Яна Паўла II прэзентаваў свой пераклад ягонага «Рымскага трыпціха», выдадзены пры дапамозе Беларускай грэка-каталіцкай царквы, 28 чэрвеня 2004 г.*

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 6–7.)*

енны час на тэрыторыі Заходняй Беларусі мела месца практычнае ўвасабленне гэтых ідэй. Было створана каля 30 усходніх каталіцкіх парафій, а ў неа-Унію перайшло каля 30 тысячаў вернікаў. Польскі ўрад ствараў перашкоды пашырэнню неа-Уніі ў Заходняй Беларусі. У 1932 годзе было забаронена ўтвараць новыя парафіі. Ватыкан у 1931годзе прызначыў біскупа Мікалая Чарнецкага апостальскім візітатарам для католікаў візантыйска-славянскага абраду на Палессі і Валыні. Спробы стварыць для уніятаў уласную, незалежную ад рыма-католікаў епархію былі блакаваны польскім урадам.

Пасля далучэння Заходняй Беларусі да БССР пачаўся масавы наступ на хрысціянаў, а асабліва на грэка-католікаў. У верасні 1939 года, карыстаючыся адмысловымі ўпаўнаважаннямі, атрыманымі ад папы Пія X, мітрапаліт Андрэй Шаптыцкі ўтварыў Беларускі грэка-каталіцкі экзархат і прызначыў экзархам Антона Неманцэвіча. На той момант дзейнічала каля 40 каталіцкіх святароў усходняга абраду. Аднак у выніку рэпрэсій НКУС, а потым і немцаў, да 1941 года ў Заходняй Беларусі засталося толькі 3 грэка-каталіцкія парафіі. Напрыканцы 1942 года экзарх Антон Неманцэвіч быў арыштаваны гестапа і расстраляны.

Пасля вайны на тэрыторыі Беларусі не засталося ніводнай грэка-каталіцкай парафіі, нешматлікія беларускія грэка-католікі маглі толькі патаемна звяртацца да ўкраінскіх святароў. У гэты час у Заходняй Еўропе і ЗША беларускія грэка-католікі арганізавалі некалькі парафіяў. Іх абслугоўвалі беларускія святары, якія пасля вайны апынуліся на Захадзе. У 1960 годзе Ватыкан прызначыў для беларускіх грэка-католікаў у замежжы біскупа ў асобе Чэслава Сіповіча, які стаў першым беларускім каталіцкім біскупам усходняга абраду пасля 1839 года. Рэзідэнцыя біскупа Сіповіча, апостальскага візітатара для беларусаў замежжа, знаходзілася ў Лондане, дзе быў створаны сапраўдны духоўны цэнтр беларусаў. На дадзены момант апостальскім візітатарам для беларусаў замежжа з'яўляецца а. Аляксандр Надсан, які жыве ў Лондане. Сваю пастырскую дзейнасць ён спалучае з грамадскай: узначальвае Бібліятэку імя Францішка Скарыны. Акрамя таго, а.Надсан з'яўляецца перакладчыкам усіх усходніх літургічных тэкстаў, якімі цяпер карыстаецца Беларуская грэка-каталіцкая царква, і аўтарам кнігі «Біскуп Чэслаў Сіповіч: сьвятар і беларус» (Менск, 2004).

У самой Беларусі напрыканцы 1980-ых гадоў сярод інтэлігенцыі з'явілася моцная цікавасць да Уніяцкай царквы. У 1989 г. група мінскай моладзі пачала падрыхтоўку да выдання грэка-каталіцкага часопіса «Унія» (першы нумар выйшаў у жніўні 1990 г.), а таксама па стварэнню першай парафіі. У сакавіку 1990 года з гуманітарнай дапамогай для пацярпелых ад Чарнобыльскай катастрофы ў Беларусь прыехаў а. Аляксандр Надсан. 11 сакавіка 1990 года ён адслужыў у Мінску першую грэка-каталіцкую літургію па-беларуску. Першая мінская грэка-каталіцкая парафія была створана ў верасні 1990 года. З часам з'явіліся парафіі таксама ў іншых гарадах (Гомель, Гродна, Магілёў, Віцебск, Полацк, Брэст, Маладзечна, Ліда). Першыя хросты грэка-каталікоў у 1989 годзе правёў у м. Баруны будучы дэкан Беларускай грэка-каталіцкай царквы а. Ян Матусевіч († 1998). Восенню 1993 года Ватыканам быў прызначаны апостальскі візітатар для грэка-католікаў Беларусі — польскі мар'янін а. Сяргей Гаек.

Цяпер Беларуская грэка-каталіцкая царква (БГКЦ) мае 15 парафіяў, якія абслугоўваюць 7 святароў, у Полацку дзейнічае манастыр манахаў-студытаў, у Брэсце выдаецца газета «Царква». Далейшае развіццё БГКЦ знаходзіцца ў простай залежнасці ад урэгулявання яе кананічнага статуса і прызначэння грэка-каталіцкага біскупа для Беларусі.

**Алесь ТРАФІМЕНКА.**


***Бюлетэнь Грамадзянскай ініцыятывы «За свабоднае веравызнанне»***

***Bulletin of "For free Denomination" Civil initiative***

**№ 7, February — March 2005.**

**Наклад 299 экземпляраў.**

**Рэдактар Валянціна Трыгубовіч.**



**Паштовы адрас: 220012, а/с 101, Мінск, Беларусь.**

**E-mail: religionfreedom@tut.by**

**Тэл. (+375 17) 282-42-10; 8-029-403-98-03.**